# ЦАРКОЎНЫЯ КАЗАНЬНІ

ШТОМЕСЯЧНЫ БЕСПЛАТНЫ ДАДАТАК ДА ЧАСОПІСІ

„Праваслауны Беларус“

| Год 1. | Месяц Кастрычнік 1925 г. | Сшытак 4. |
|---|---|---|

## Казаньне на Пакроу Прачыстай Багародзіцы.

У сягодняшні дзень, праваслаўныя браты і сёстры, мы з вамі усхваляем пакроў Царіцы Нябеснай і яе заступленьне роду хрысьціянскаму ў часы лютай бяды, у час находу дзікуноў-язычнікаў на старонку праваслаўную.

Былося гэта у 10-ым стагодзі пасля Ражства Хрыстова ў Грэцыі.

Прыплылі да сталіцы Грэцыі Канстантынопалю на многіх караблёх дзікія, сярдзітыя заваёўшчыкі. Ужо яны высадзілі сваё войска з караблёў і падпусьцілі яго да сьценаў небаружонай сталіцы і рыхтаваліся ўсё разгрэбіць і зьнішчыць агнём і мячом. Напалохаліся бедныя жыхары, ня маючы магчымасьці абараняцца ад сярдзітага і дзікага ворага сваей ўласнай сілай. І зьвярнуліся яны за памогай і абаронай да высокай нашай Заступніцы і Абаронцы ад усякіх бед і напасьцяў. Сабраліся яны ў ноч на 1 кастрычніка ў царкве Влахернскай і адправілі там усюночную Службу Божыю.

Усю ноч не пераставалі малітвы і песьні да Нябеснай Заступніцы з вустнаў бедных людзей, ахвяраваных на немінучую пагібель.

Гарячая была іх малітва аб збаўленьні ад наглай сьмерці і буйныя капалі сьлёзы аб спасеньні і помачы да заступніцы сьвету зямнога—Прачыстай Богамацеры.

І вось раптам, увочывідзь для ўсіх сталася ў царкве дзіўнае зьявішча. Перш адзін Божы чалавек сьв. Андрэй, а за ім ўсе астальныя увідзелі Прачыстую ідучую дзіўна па паветру на аблоках, ад парогу царквы да алтара. Сьв. Андрэй, паказываючы на Прачыстую свайму вучню Епіфанію казаў: „ці бачыш, браце, Улыдычыцу якая моліцца за нас? „Бачу, ойча, і дзівуюся“ –адказаў Епіфані.

Вочы ўсіх былі ўзьняты да вежы царквы, дзе памамаленьку пасувалася Яна—Прачыстая Маці Божая абкружо-

ная святымі і анёламі. Вось Яна ўжо каля алтара. Тут, укленчыўшы, Яна сьлёзна малілася Сыну Свайму і Богу нашаму. Кончылася малітва. Прачыстая зьняла свой Омофор і пакрыла ім усіх верных: накрыла Яна іх Сваім усемагутным пакровам.

І сталася чуда пад сьцянамі сталіцы. Горад, людзі і ўся старонка—абаронены! Неспадзеваная бура, навальніца паўстала на моры і параськідала, пабіла на шчэпкі караблі злых ворагаў, а ўсё выйшоўшае з караблёў войска разьбеглася ў вялікім страху ад зусім не абаружонага беззашчытнага гораду. Зністожаны ворагі-язычнікі, а хрысьціяне неаружаны памілаваны, знайшоўшы пакроў і заступніцтва у Прачыстай Божыей Мацеры.

З таго памятнага дня штогод Праваслаўная Грэцкая царква сьвяткуець дзень 1-га кастрычніка, а ад грэкаў і мы, прыняўшы веру Хрыстову, усвоілі гэты звычай сьвяткаваць дзень сьвятога Пакрову. Пагэтаму і мы з вамі выслаўляем дзіўны Пакроў Божыей Мацеры над грэшнай зямлёй.

Няхайжа шчырэй і гарачэй нясуцца нашы слабыя малітвы і песьні да Яе Заступніцы нашай у часы бяды і гора! Няхай сягоньня, і заўтра і кожны дзень Яна памагаець хрысьціянскаму роду, а разам з ім і нам безабронным праваслаўным, няхай будзець Яна сьцяной, і зашчытай і памогай. Амін.

********

## Казаньне у нядзелю 17 пасьля Тройцы.

Браты і сёстры! Сёньняшнее Евангеліе апавядаець нам аб ісцаленьні Госпадам Нашым Ісусам Хрыстом аднэй шалёнай дачкі язычніцы хананеянкі, у той час, як Госпад перахадзіў па грэшнай зямлі Ціра і Сідона. Прахадзіў Ісус Хрыстос ня маючы замеру навучаць людзей, тут не тварыць чуды сярод іх, навет можна болей сказаць — Ен зусім не хацеў каб тутэйшыя жыхары-язычнікі ведалі аб Ім. Але слава аб Ім, як аб вялікім Чудатворцу ўжо шырока разыйшлася за межамі роднай Яго Палестіны на другіх язычніцкіх краінах.

І вось як толькі ногі Спасіцеля нашага уступілі на зямлю язычаскую, на спатканьне Госпаду вышла адна жанчына, язычніца па веры і вялікая грахаводніца па сваім учынкам. „Памілуй мяне, Госпадзі, Сыне Давідаў! Дачка мая крэпка

шалееці!“ З плачам і з мальбой зьвярнулася жанчына да Ісуса Хрыста.

Доўга крычала, прасіла і плакала жанчына... Госпад маўчаў не выказываючы жаднай зацікаўленнасьці да сьлёзаў і просьбы беднай мацеры. Навет вучням Хрыстовым надокучылі крыкі і сьлёзы гэтай кабеты і яны зьвярнуліся да Госпада: Адпусьці яе, бо яна крычыць ідучы за намі.“

Штош абазначала маўчаньне Найміласэрднейшага Госпада Нашага Ісуса Хрыста? Чаму гэта так? Ды таму, што Спасцель выпрабовываў веру чалавека, выпробываў душу язычніцы. „Я пасланы толькі да прапашчых авечак дому Ізраелева“—алказаў Ісус Хрыстос на просьбу вучняў сваіх.

Новае гора—для і без таго ўжо поўнае адчаю сэрца язычніцы і новае выпробываньне яе веры: здавалася ей, што Ен і не глянуў на яе, ня чуець яе прозьбы, ня чуець Той аб чыей міласэрднасьці яна так многа чула! „Госпадзі, памажы мне!“ Паваліўшыся на зямлю перад нагамі Ісуса Хрыста, поўная адчаю прасіла жанчына.

А Госпад ўсё глыбей выпробываў яе веру і на яе такія гарачыя і шчырыя сьлёзы, зусім сьцюдзёна адказаў: „Ня добра ўзяць хлеб у дзяцей і кінуць яго сабакам! Толькі вы, іудзеі Мае дзеці, Мой абабраны народ, а ўсе іншыя народы —астатнія сабакі ў параўнаваньню з вамі“.

Вы чуеце, браты і сёстры, які вялікі і які цяжкі дакор быў у гэтых славах Госпада бесшчаснаму сэрцу язычніцы, нічым не вінаватий у тым, што яна радзілася ад язычнікаў і вырасла паміж іх.

Але вера яе разгарэлася, як полымя і не згасіць яе ужо нічым! „Так, Госцадзі—кажаць жанчына:“ Ты праўду кажаш; мы запрауды нічога невартыя сабакі, але і сабакі падбіраюць крошкі, якія валюцца з столу гаспод сваіх“! І бачучы такую глыбіню і шчырасьць веры і пераконаньня гэтай нешчаснай жанчыны язычніцы, Госпад адказаў: „О, жанчына, вялікая вера твая; няхай будзець так, як ты жадаеш!“ Іісцаліў дачку яе ў той жа час...

Вось дзе яскравы прыклад для нас, праваслаўные хрысьціяне, вось дзе для нас паказка Самаго Госпада для такого каб мы ведалі як трэба вераваць нам у Госпада і з якой верай нам трэба прасіць Яго Спаса Нашаго каб атрымаць ад Яго вялікія і багатыя міласьці.

Так і нам, як гэтай беднай і грэшнай мацеры язычніцы Усядобры і Усемагучы Спас Наш не пажалеець міласьці сваей, калі мы з гэткаю цьвёрдаю вераю і гэтак упарта будзем прасіць Яго. Амін.

*********

## Казаньнняуэдзелю 18 пасьля Тройцы.

Настаунік, мы усю ноч працавалі, але нічога не улавілі. (Лука 5, 5)

Усю доўгую ноч, ад самага зьмерканьня да познага ранку працавазі апосталы-рыбакі на моры. Колькі разоў закідывалі ў ваду яны свас сеткі, і столькі разоў выцягавалі іх парожнымі на бераг. Усё няма рыбы. Доўгую ноч правялі рыбакі на вадзе, а нічога не ўлавілі. Засмучаныя і поўныя дасады, яны кінулі працу і сталі зьбіраць з вады сеткі, каб з пустымі рукамі ісьці дамоў.

Але падходзіць да іх Бажэсьцьвенны Вучыцель—Ісус Хрыстос і загадываець ім ізноў сесьці ў чоўны і адплыць на глыбіню мора і там закінуць сеткі свае. „Настаўнік“, кажаць апостал Сымон—Пётр: „мы працавалі ўсю ноч і нічога не ўловілі, але паслухаю слова Твайго і закіну сеткі“. І сталася дзіва: рыбакі улавілі столькі рыбы, што наклалі ей два чаўны, якія ад цяжару рыбы пачыналі тануць. І зразумеў Сымон-Пётр, што перад яго вачамі сталася чуда: „Адыйдзіся ад мяне, Гаспадзі, бо я вялікі грэшнік!—укленчыўшы перад Ісусам Хрыстом, прасіў апостал Сымон.

Так, улюбёныя браты і сёстры, апавядаець нам сягодняшнее евангельле. Гэтае евангельскае апавяданьне мы павінны добра запамятаваць і глыбока захаваць яго ў сэрцы сваім. Павінны думаць аб ім штодзенна, штомінутна.

Падумаем толькі сабе ці ня так і мы, як тыя рыбакі, усю доўгую ноч нашага жыцьця ў вялікім моры яго усё ловім, усў хочам улавіць рыбу—багацьце і славу зямную? Як навыперадкі, адзін перад другім пасьпешаем мы улавіць сваё шчасьце, сваю лепшаю долю. Але зусім мала ёсьць сярод нас гэткіх шчаслівых. Вялікая большасьць нас, тысячы і міліёны цэлае жыцьце сваё трудзяцца, як тыя рыбакі, і паміраючы з адчаем усклікаець: „усю ноч працаваў... і нічога не ўловіў!“

Хоць можна і надта рэдка, але усёткі бываюць у кожнага з нас такія мамэнты ў жыцьці, калі нам удаецца з цёмнага бурлівага мора жыцьця улавіць сваё шчасьце.

І што мы робім тады? Пётр ад страху укленчыў перад Госпадам і прасіў Яго: Адыйдзі, Сьв. Госпадзі, ад мяне, бо я чалавек грэшны, няварты гэтага“...

А мы? Мы зусім забываемся, што мы вялікія грэшнікі. Мы не ад таго дрыжым, што шчасьце даджана нам Госпадам Спасам нашым; не ад таго забіраець нас страх, што блізка Госпад да нявартай грэшнай душы нашай; не ад таго мы непакоімся, што спазналі сваё грэшнае бруднае жыць-

цё, свае праступкі перад Богам... Не! Нам проста шкода, што шчасьце, так доўгажаданае і жданае шчасьце можаць раптам выскачыць з нашай дзіравай сеткі, як тая рыба і зьнікнуць ад нас і зноў на доўга, а можа быць і на заўсёды.

Вось ад гэтага так рэдка іграець над намі промень шчасьця, што мы ня хочам укленчыць як Пётр—Сымон перад нашым Госпадам Богам; ад гэтага самага нам цяжка і балюча робіцца на душэ, калі адлетаець ад нас на часіну завітаўшае шчасьце; ад гэтага самага так рэдка і так мала трапляець у нашы хцівыя сеткі шчасьця і доля.

Мала ў нас надзеі, мала любві да Госпада Бога, мала страху перад Усемагутнасьцю. Мы толькі заняты лоўлей зямнога шчасьця, якое як рыба праз дзіравую сетку, заўсёды уцякаець ад нас! Амін.

********

## Казаньне у нядзелю 19 пасьля Тройцы.

„Як хочыца, каб абхадзіліся з вамі другія, так і вы абходзьціся з імі. (Лука 6, 31).

Які вялікі вечны закон паказан нам людзям Спасам нашым Ісусам Хрыстом у гэтых словах. І гэты закон на столькі вялік, на столькі просты і зразумелы кожнаму ад вялікага да малога. Зразумелы ён ня толькі хрысьціяніну але і кожнаму язычніку.

Вядомы рымскі імпэратар Александр Сэвер, язычнік, па гардасьці сваей не прызнаваў Ісуса Хрыста за Сына Божага, але застаючыся грубым язычнікам, ён не знайшоў лепшага закону, як гэты закон Спасіцеля і загадаў напісаць яго над дзвярмі свайго палацу, а так сама ў ва ўсіх судах і заканадаўчых установах сваей дзяржавы. Гэтым сваім загадам як бы падцьвярдзіў, што ніхто з людзей, навэт сам цар не у стане выдаць вышэйшага закону, як гэты закон Ісуса Хрыста: „не рабі таго другому, чаго ня хочаш каб рабілі табе".

І запраўды, дарагія браты, калі б мы запыталіся самі сябе чаго мы жадаем ад другіх, дык зрозумела адказ быў бы гэткі: хочам каб усе людзі любілі нас, дапамагалі нам і не рабілі б нам шкоды.

З другога боку, калі мы павінны абхадзіць з другімі, так як хочам каб гэтак з намі абхадзіліся, дык і нам сваім

парадкам так сама трэба любіць усіх, дапамагаць ім у бядзе і смутку: не рабіць ім шкодаў і перашкодаў у іхным жыцьці.

Але прыглядземся лепей да саміх сябе і да другіх, да жыцьця свайго і блізкіх нашых. Ці выканывываем мы гэты вялікі закон дадзжаны нам Спасам нашым? І ці не паступаем мы ў жыцьці сваім як раз наадварот: жадаем толькі дабра для сябе, а другога часта-густа гатовы утапіць у лыжцы вады.

„Будзем міласэрдны“, кажаць Ісус Хрыстос, „як і Айцец ваш нябескі міласэрдны“.

І калі мы называем Айцом сваім Бога хочам не на словах толькі, а запраўды называцца сынамі Яго і калі хочам мець награду вялікую і ўцеху ў жыцьці, мы павінны быць міласэрдны да усіх блізкіх, з якімі часта і рэдка спятыкаемся ў сваім жыцьці, ня гледзючы на тое, прыхільны яны да нас ці ворагі нашы.

Вось гэты праўдзівы закон Госпада Ісуса Хрыста, які ляжыць у аснове новага жыцьця райскага між людзьмі на зямлі.

Вы чуеце колькі сягоньня гутаркі аб роўнасьці ўсіх і кожнага, аб свабодзе і брацтве народаў, аб райскім жыцьці на зямлі. Якія прыгожыя словы! Але прыглядзіцеся на справы. Усюды ідзе змаганьне, змаганьне не на жыцьцё, а на смерць. Большасьць перамагаець меншасьць. Тэррор, бомбы, кулі, пякельныя машыны,.. Дзе-ж рай? Дзе агульнае шчасьце? Дзе мір. Цішына? Меч ды агонь па целе і душы народаў. Скрыпіць зубамі адзін на другога. Можа гэта толькі часавае зьявішча, можа гэта пераходны час ад пякельнага да райскага жыцьця на зямлі? Гісторыя народаў сьведчыць нам яскравымі прыкладамі гэткіх зьявішчаў у мінулым жыцьці плямён і народаў у іх дасяганьні раю зямнога.

„Асьцярагайцеся“— кажаць сьв. ап. Павел, „калі адзін другога грызіцё зьядаеце, как і вы ня былі зьнішчыны адзін другі“ (Гал. 5, 15). Але ніхто ня хочаць слухаць аб гэтым папярэджаньні сьв. апостала.

Божа! Як разумеюць людзі сягоньня твой вялікі загад ім: „Будзце міласэрдны, як Айцець ваш міласэрдны“. Палон і катаваньне замест міласэрднасьці, пагарда і ненавісьць заместа любві! Забыліся на вялікі Закон Ісуса Хрыста: „не рабі таго другому, чаго ня хочаш каб табе другія рабілі“. Гонімся за раем, а ўсё далей і далей заходзім ў пекла. Нечавісьць, злосьць і хцівасьць з‘еўшыя накалі цэлыя народы і дзяржавы, паграseverity сягоньня і нам. Народы гэтыя, перагрызшы адзін другому горлы ў змаганьні за ўладу і першынство згінулі на векі.

Дык будзем старацца помніць вялікі загад даджаны нам Спасам нашым Ісусам Хрыстом і будзем правадзіць яго ў сваім жыцьці на кожным кроку, у кажную мінуту. Кладу-

чыся у пасьцель і ўстаючы з яе, бяручыся і канчаючы працу сваю будзем мець перад сабой вялікія словы Спасіцеля нашага; „не рабі таго другім, чаго ня хочаш каб табе рабілі“ „Будзьце міласэрдны, як Айцец ваш нябесны міласэрдны“ і ня толькі пастараемся мець іх у думках сваіх, але будзем выяўляць іх ў кожным учынку і ў адносінах да блізкіх сваіх: ворагаў і прыхільнікаў.

І тады, толькі тады паўстанець між намі мір, згода, брацтва і любоў паміж людзей і толькі тады з гэтага часовага райскага жыцьця зямнога мы пярэйдзем без перашкоды ў новае жыцьцё, жыцьцё вечнае—царства нябеснае. Амін.

********

## Казаньне у нядзелю 20 пасьля Тройцы.

Жыцьцё наша—шлях гора і сьлёз. І ніхто з жавушчых на зямлі, ня можаць абмінуць гэтага шляху ня можаць прайсьці бяз бяды і гора. Сярод іншых нешчасьцяў, якія нападаюць па волі Божыей на людзей, найцяжэйшым бываець сьмерць блізкіх нам людзей, і нямя такога чалавека на сьвеце, які б праводзычы у жыцьцё вечнае сваго блізкага ці роднага ўцярпеў бы ад сьлёз.

Галосюць і плачуць дзеці, хаваючы бацькоў сваіх, галосюць жонкі па сваіх мужах, браты аб сёстрах, сёстры аб братох Але з чым можна параўнаваць страданьня і адчай беднай мацеры і асабліва ўдавы, калі яна хароніць на векі вечныя ў зямлю адзінага сына, адзіную ўцеху і надзею на старасьць. Няма канца яе гору і няма слоў выказаць яго!

Так плакала і млела па сыну і тая ўдава гораду Наіну, аб якой апавядаець наша сягоньняшнее Евангельле. Роспач і гора яе былі неабмежаваныя.

Увідзеўшы нешчасную удаву, Ісус Хрыстос зжаліўся над ей. „Ня плач!“ Сказаў Ен ей і падыйшоўшы да пасьцелі на якой ляжаў нябошчык, загадаў пакойніку: „Юноша! кажу табе ўстань!“

Падняўся і сеў мярцьвец і стаў гаварыць.

Вялікая радасьць была ўдавы. Страх і задзіўленьне паўсталі ў народзе. „Вялікі прарок паўстаў між намі і Бог атведаў народ Свой!“ — Славілі Бога ўсе прысутныя пры гэтым.

Але ці адно толькі гэта чуда сатварыў Ісус Хрыстос, а людзі ўсё раўно ня зусім узналі Яго і ня веравалі ў Яго, як у Бога. Цягер увочывідзь ізноў бачылі людзі, што на-

вэт сама сьмерць уцякаець перад простым чалавекам з Назарэту, што жыцьцё варачаецца ў мёртвае цела і ніхто не мог здагадацца, што той Мэссія, якога ждалі ўсе з гэткай нецярплівосьцю, ўжо на зямлі, што перад імі ёсьць Ен—Ісус Галілеец. Ня было веры ў Хрыста, як Бога ў плоці, ня было яе тады, як няма яе і цяпер шмат у каго з нас.

Дзеля чагож мы цяпер робімся падобнымі на тых кніжнікаў фарысеяў няверных? Зачым мы адварачываемся цяпер ад Яго Самаго Спасіцеля, Які хоць і пакінуў зямлю, пасьлл вазьнясеньня Свайго на неба, але нявідзіма і неадступна знаходзіцца сярод нас.

І цяпер не глядзючы на тое, што гісторыя евангельская напечатавана на міліёнах людзкіх сэрцаў, гісторыя маючая нязьлічанае множаства сьведкаў, у нашы часы, калі ўсе абставіны спрыяючыя для пашырэньня і ўмацаваньня веры сярод людзей—яе якраз няма сярод нас. Хітры зьмей спадвёўшы і спакусіўшы некалі Еву прыдумаў новыя рэчы і сягоньня падрабляець праўдзівую веру хрысьціянскую пад сацыялізм каммунізм, масонства дзеля служэньня мудрэйшаму богу—д'яволу.

Сумныя часы! Хітрыя часы! Колькі нячыстых сетак парастаўлена кругом каб заманіць к сабе хоць адну новую ахвяру!

Спасі нас, Божа, абарані нас і агарадзі Крыжам сьвятым Сваім сьвет увесь, душу і цела нашае і уваскрасі нас заблудных на ростаньнях дарог жыцьця! Уваскрасі нас ад сьмерці духоўнай, як некалі уваскрасіў Ты сына наінскай ўдавы. Амін.

********

Рэдактар-Выдавец **І. Пачопка.**

**Drukarnia Synodalna.** Warszawa-Praga, Zygmuntowska 13.